# Голас Радзімы

№ 26 (2012)
25 чэрвеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





«Маё дзяцінства» — так назвала свой малюнак 12-гадовая магілёўская школьніца Ганна **ПАЎЛАВА.** Маляванне — любімае захапленне дзяўчынкі. Яна займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва ў Доме піянераў, і яе работы неаднойчы ўдзельнічалі ў выстаўках, што праводзіліся ў Магілёве. А сёлета малюнак, які вы бачыце, экспанаваўся на XXXI рэспубліканскай выстаўцы дзіцячай выяўленчай творчасці і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Мінску. Дзяўчынка адлюстравала, відаць, сябе і сваіх сяброў. Шырока адкрытыя, даверлівыя дзіцячыя вочы нібы зазірнулі табе ў душу, яны з верай і надзеяй глядзяць ў будучыню.

(Артыкул «Дзіцячы малюнак» чытайце на 6-й стар.)

## ПЕРАБУДОВА І ДЭМАКРАТЫЯ

# ПРАВА ВЫБАРУ



**Найбольш масавай формай удзелу працоўных у кіраванні дзяржавай, у рашэнні важнейшых пытанняў грамадска-палітычнага жыцця краіны з'яўляюцца выбары дэпутатаў у Саветы, у якіх удзельнічаюць практычна ўсе паўналетнія грамадзяне нашай краіны. 21 чэрвеня мнагалюдна і ўрачыста было на выбарчых участках па ўсёй Беларускай рэспубліцы. Гараджане і сельскія жыхары, людзі маладыя і старэйшага ўзросту выбіралі сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у мясцовыя органы дзяржаўнай улады. З усіх дэпутатаў, абраных у мясцовыя Саветы, амаль 70 працэнтаў складаюць рабочыя і калгаснікі; амаль палавіна абраных — жанчыны; больш палавіны — беспартыйныя; кожны трэці — ва ўзросце да 30 гадоў. Аб адметных асаблівасцях сёлетніх выбараў, якія праходзілі ва ўмовах перабудовы, дэмакратызацыі ўсяго жыцця грамадства, павышэння ролі Саветаў у рашэнні пытанняў дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльнага будаўніцтва, расказвае чытачам «Голасу Радзімы» сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Людміла СЫРАЕГІНА.**

— Выбарчая сістэма ў Савецкай краіне забяспечвае прапарцыянальнае прадстаўніцтва ўсіх слаёў насельніцтва ў выбарных органах улады. У гэтым відавочнае і рэальнае адрозненне сацыялістычнай дэмакратыі ад дэмакратыі буржуазнай, дзе ў такіх органах улады пераважаюць прадстаўнікі эксплуататарскіх класаў.

У нашай краіне ў Саветах народных дэпутатаў на ўсіх узроўнях прадстаўлены рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыя, мужчыны і жанчыны, людзі маладыя і ветэраны, усе нацыі і народнасці, якія насяляюць Савецкі Саюз.

Такі састаў дазваляе дэпутатам з глыбокім веданнем справы вырашаць самыя важныя пытанні жыцця нашага грамадства і дзяржавы, улічваючы запатрабаванні і інтарэсы розных груп насельніцтва, асаблівасці кожнай нацыі і народнасці.

Наша выбарчая сістэма — гэта вялікае дасягненне сацыялістычнай дэмакратыі. Аднак яна, як і ўсе палітычныя, эканамічныя сацыяльныя інстытуты, не можа абмяжоўвацца дасягнутым, не развівацца, заставацца ўбаку ад працэсаў, звязаных з перабудовай. Яна ўдасканальваецца, убіраючы ў сябе папярэдні вопыт, улічваючы патрабаванні часу.

*— Ці правільна будзе сказаць, што ідзе далейшае паглыбленне савецкай дэмакратыі?*

— Іменна так. На студзеньскім (1987 года) Пленуме ЦК КПСС падкрэслівалася, што не можа быць гаворкі аб нейкай ломцы нашай палітычнай сістэмы. Задача ў тым, каб паўней выкарыстаць усе яе магчымасці з максімальнай эфектыўнасцю, напоўніць работу партыі, Саветаў, грамадскіх арганізацый глыбокім дэмакратычным зместам. У адпаведнасці з рашэннямі Пленума, сёлета у многіх выбарчых акругах у парадку эксперыменту апрабіравана тое новае, што мяркуецца ўнесці ў нашу выбарчую сістэму.

*— Людміла Мікалаеўна, паколькі тэмай нашай гутаркі з'яўляюцца выбары, не маглі б вы больш дэтальна і канкрэтна спыніцца на тых новых момантах, якія характарызуюць сёлетнюю выбарчую кампанію?*

—Сёлетнія выбары, як і заўсёды, праводзіліся ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. У Закон аб выбарах унесены толькі частковыя змяненні. Але ўся атмасфера, у якой яны рыхтаваліся і праводзіліся, была не такой, як заўсёды. Выбарчая кампанія была накіравана на пазбаўленне элементаў фармалізму, абыякавасці з боку выбаршчыкаў, мы імкнуліся, каб кожны адчуваў сваё дачыненне да важнай дзяржаўнай справы.

Выбары ў нашай краіне — усенародная справа. Важнейшай асаблівасцю перадвыбарнай кампаніі з'яўляецца тое, што яе арганізуюць не дзяржаўныя служачыя, як гэта прынята ў капіталістычных краінах, а выбарчыя камісіі з прадстаўнікоў працоўных калектываў і грамадскіх арганізацый. Так, у сёлетнюю выбарчую кампанію ў 36 958 абласных, раённых, гарадскіх, раённых у гарадах, пасялковых, сельскіх, акруговых і ўчастковых выбарчых камісіях у рэспубліцы працавала 409 772 чалавекі. Тут былі прадстаўлены ўсе слаі і групы насельніцтва. Многія камісіі ўзначальвалі рабочыя і калгаснікі. Напрыклад, старшынёй камісіі па выбарах у Драгічынскі раённы Савет быў электразваршчык трактарарамонтнага завода А. Вакульчык.

Дэмакратызм нашай выбарчай сістэмы найбольш ярка выявіўся на этапе вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Да эксперыменту на адно дэпутацкае месца, як правіла, уносілася і абмяркоўвалася адна кандыдатура, цяпер, у абсалютнай большасці,— некалькі. На 85 тысяч дэпутацкіх месцаў было прапанавана і абмеркавана амаль 150 тысяч кандыдатур.

Яшчэ і такую асаблівасць хочацца падкрэсліць. У буйных працоўных калектывах вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты праводзілася сёлета па цэхах, участках, брыгадах, на фермах. Адным словам, там, дзе будучы дэпутат працуе, дзе лепш ведаюць яго дзелавыя якасці, арганізатарскія здольнасці, маральнае аблічча. Многа было сёлета выпадкаў вылучэння кандыдатаў у дэпутаты непасрэдна ў тых месцах, дзе яны жывуць і працуюць, а значыць добра ведаюць усе праблемы, якія хвалююць выбаршчыкаў, лепш разумеюць іх патрэбы і просьбы і, натуральна, хутчэй пастараюцца выканаць іх наказы. Не фармальна, на больш высокім узроўні праводзіліся сустрэчы выбаршчыкаў з кандыдатамі ў дэпутаты. Звычайна ў час такіх сустрэч адбываўся зацікаўлены абмен думкамі па пытаннях, якія аднолькава хвалявалі абодва бакі. Кандыдат у дэпутаты, выступаючы, спыняўся, як правіла, на канкрэтных справах, якія датычыліся выбарчай акругі, вёскі, мікрараёна, гаварыў аб нявырашаных праблемах, якія хвалююць выбаршчыкаў, раіўся з імі, выказваў меркаванні, як справу паправіць. Кандыдаты ў дэпутаты часта сустракаліся з насельніцтвам у дварах, на агітпляцоўках, заходзілі ў кватэры выбаршчыкаў.

Рэдка сутыкаліся мы раней і з такой з'явай, як адвод кандыдатуры, якая прапаноўвалася. Цяпер выбаршчыкі адчувалі большую адказнасць за справу, большую зацікаўленасць. Таму былі выпадкі, і не адзінкавыя, калі не падтрымліваліся грамадзянамі кандыдатуры кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый. Нічога дзіўнага тут няма. Дэпутацкі мандат — не дадатак да пасады. Давер выбаршчыкаў трэба заслужыць добрасумленнымі адносінамі да справы.

*— Вядома, што да гэтага часу ў нас праводзіліся выбары па аднамандатных акругах — адзін дэпутат ад адной акругі. Пры гэтым вылучаўся і ўносіўся ў бюлетэнь адзін кандыдат. Змены ў выбарчай сістэме, якія ў далейшым мяркуецца ажыццявіць, запатрабуюць, відаць, змены парадку выбараў?*

— Закон і раней не абмяжоўваў колькасць кандыдатаў, якія вылучаліся па выбарчай акрузе, а акруговыя камісіі былі абавязаны зарэгістраваць усіх вылучаных кандыдатаў, унесці іх прозвішчы ў бюлетэнь і апублікаваць вынікі рэгістрацыі кандыдатаў. Традыцыя абмяжоўвацца адным кандыдатам ідзе не ад заканадаўства, а ад выбарчай практыкі. Традыцыя гэта [illegible]ецца.

Сёлета ў шасці раёнах рэспублікі — Бялыніцкім, Глыбоцкім, Драгічынскім, Ельскім, Клецкім і Карэліцкім — эксперыментальна праводзіліся выбары па многамандатных акругах.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты праводзілася тут, як і ў звычайных акругах, грамадскімі арганізацыямі, працоўнымі калектывамі, сходамі грамадзян ці ваеннаслужачых. Розніца толькі ў тым, што колькасць вылучаных кандыдатаў перавышала колькасць мандатаў. У раённыя, гарадскія, пасялковыя і сельскія Саветы на 3 344 дэпутацкія мандаты вылучана і зарэгістравана 4 280 кандыдатаў.

Выбранымі па многамандатнай акрузе сталі кандыдаты ў дэпутаты, якія атрымалі на выбарах больш паловы галасоў выбаршчыкаў. Дэпутаты, якія набралі меншую колькасць галасоў, сталі рэзервовымі дэпутатамі адпаведнага Савета. Яны будуць прымаць удзел у рабоце Савета і яго органаў з правам дарадчага голасу, карыстацца правам дэпутацкай недатыкальнасці. Калі хто-небудзь з дэпутатаў складзе датэрмінова свае паўнамоцтвы, рэзервовы дэпутат, які атрымаў большую колькасць галасоў, стане дэпутатам без правядзення выбараў.

Выбары прайшлі, але аб выніках эксперыменту гаварыць пакуль што рана. На першым этапе ён дазволіў выбаршчыкам выказаць свае адносіны да больш шырокага, чым раней, кола кандыдатаў, а партыйным і савецкім органам — лепш даведацца аб волі выбаршчыкаў.

Вынікі выбараў пацвердзілі: ламаюцца стэрэатыпы, ствараецца новая выбарчая практыка, якая адпавядае духу часу. У гэтым складаным працэсе адлюстроўваецца тэндэнцыя сённяшняга дня — імкненне савецкіх людзей быць прамымі ўдзельнікамі кіравання справамі грамадства і дзяржавы, іх імкненне навучыцца жыць ва ўмовах дэмакратыі, выкарыстоўваючы ў гэтых мэтах важнейшы дэмакратычны інстытут — інстытут савецкай выбарчай сістэмы.

**Гутарку запісала**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

---

# «МІНСК-126»

Вырабы Мінскага завода халадзільнікаў, акрамя СССР, добра вядомы ў 20 іншых краінах, у якія эскпартуецца да 65 працэнтаў выпускаемай на прадпрыемстве прадукцыі. Сёлета на заводзе будзе выраблена першая прамысловая партыя «фабрык холаду» новай мадэлі — халадзільніка «Мінск-126».

Гэта двухкамерны апарат агульным аб'ёмам 300 літраў (на думку спецыялістаў, халадзільнікі такой ёмістасці цяпер найбольш папулярныя). Верхняя камера аб'ёмам 60 літраў працуе як маразільнік. Тут можна забяспечыць замарожванне і доўгае захоўванне прыкладна ў 1,5 раза большай колькасці прадуктаў, чым у агрэгатах папярэдніх мадэлей. Прычым тэмпература ў камеры апускаецца да 25 градусаў марозу. Хуткае ахаладжэнне дазволіць гаспадыням больш поўна захаваць смакавыя і пажыўныя ўласцівасці мяса, рыбы, іншых прадуктаў.

Другая камера, аб'ёмам 240 літраў, працуе як звычайны халадзільнік, які, аднак, патрабуе пры эксплуатацыі значна менш увагі, чым мадэлі, што выпускаюцца сёння. Напрыклад, камера размарожваецца аўтаматычна, але для збору талай вады няма звычайнага паддона, яна выпараецца ў атмасферу з дапамогай спецыяльнай сістэмы. Для захоўвання гародніны і фруктаў, сыру і масла, мяса і рыбы, яек прадугледжаны асобныя ёмістасці.

Спадабаецца пакупнікам і дызайн «Мінска-126». У ім удала прыменены каляровыя пластмасы, на ёмістасці нанесены адпаведныя малюнкі. Дзверцы, у залежнасці ад расстаноўкі мэблі на кухні, можна навешваць як з правага, так і з левага боку халадзільніка.

«Мінск-126» стане дзевятай па ліку мадэллю хатніх «фабрык холаду», якія сыходзяць з канвеераў Мінскага завода халадзільнікаў. Цяпер у асартыменце прадукцыі прадпрыемства — халадзільнікі аб'ёмам ад 240 да 350 літраў, адна- і двухкамерныя, маразільнікі аб'ёмам ад 120 да 220 літраў. Думаецца, такая разнастайнасць здольна задаволіць густы самай патрабавальнай гаспадыні.

Дададзім, што мінскія халадзільнікі і маразільнікі былі ўдастоены многіх вышэйшых узнагарод на міжнародных выстаўках і кірмашах.

**В. ЯКАЎЛЕЎ.**



# БАЛЬНІЦА ЯК САНАТОРЫЙ

**Вялікі прыгожы будынак, фантаны, алеі блакітных елак, прыгожыя клумбы — усім гэтым Свіслацкая раённая бальніца, што на Гродзеншчыне, асацыіруецца з санаторыем. І гэта не выпадкова. Персанал лячэбнай установы, лічыць, што ад хвароб лечаць не толькі медыкаменты, але і прыгажосць, эстэтыка навакольнага асяроддзя, камфорт. Але не толькі сваім знешнім выглядам вабіць бальніца. Размешчана яна ў мясцінах, дзе, паводле архіўных дакументаў, да рэвалюцыі на 50 тысяч чалавек была толькі адна маленькая лячэбніца для сялян. Стаялі ў ёй чатыры ложкі для мужчын і два — для жанчын і дзяцей. Дапамогу насельніцтву аказвалі толькі ўрач і фельчар. У перыферыйнай Свіслацкай бальніцы робяць сёння складанейшыя хірургічныя аперацыі, паспяхова лечаць цяжкія хваробы. Высокая кваліфікацыя ўрачоў рознай спецыялізацыі, іх пастаянная прафесійная незаспакойлівасць падмацоўваюцца добрай дыягнастычнай базай. Аснашчана бальніца найноўшым абсталяваннем, ёсць лабараторыі, дзе робяцца агульнаклінічныя, біяхімічныя, бактэрыялагічныя аналізы. У клініцы шырока практыкуюцца сучасныя фізіятэрапеўтычныя метады лячэння, лячэбная фізкультура, масаж. Ёсць свая водагразелячэбніца, сауна, салярый, заканчваецца будаўніцтва комплексу для спелеатэрапіі.**

**Урачы бальніцы не трацяць многа часу на вядзенне гісторыі хваробы. У іх распараджэнні гуказапісваючая апаратура. Расшыфроўку запісаў неадкладна робяць у дыктафонным цэнтры.**

**Сёння ў Свіслацкай раённай бальніцы адначасова могуць лячыцца больш за трыста чалавек. Але галоўную сваю задачу яе ўрачы, сёстры бачаць усё ж у прафілактычнай рабоце, у папярэджанні хвароб. Яны ўжо назапасілі немалы вопыт па ранняму выяўленню хвароб, распрацавалі свае методыкі дыспансерызацыі насельніцтва.**

**НА ЗДЫМКУ: Свіслацкая цэнтральная раённая бальніца.**

**Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.**

# КОМУ СЛУЖИТ ЛЕГЕНДА О «ПРЕВЕНТИВНОЙ» ВОЙНЕ

**(К 46-й ГОДОВЩИНЕ НАПАДЕНИЯ ФАШИСТСКОЙ ГЕРМАНИИ НА СССР)**

22 июня 1941 года фашистская Германия совершила вероломное нападение на Советский Союз. Произошло то, чего советский народ и его руководство стремились во что бы то ни стало избежать. Совершив первую в мире социалистическую революцию и осуществляя гигантскую программу построения нового общества, СССР, как никто другой, нуждался в мире. На всех международных форумах, проходивших между двумя мировыми войнами, представители Советского Союза неустанно боролись за воплощение в жизнь идеи мирного сосуществования, за создание системы коллективной безопасности. В стремлении не дать нацистскому руководству Германии повода для развязывания войны против СССР советское руководство во главе со Сталиным пошло так далеко, что даже переступило грань допустимого. Война уже была у порога, а меры по подготовке отпора агрессору по-прежнему проводились настолько сверхосмотрительно, что это наряду с другими причинами привело к трагическим для советских людей событиям начального периода Великой Отечественной войны.

Но вот парадокс: в ноте германского правительства, которую нацистский министр иностранных дел Риббентроп вручил послу СССР в Берлине 22 июня 1941 года (уже после вторжения вермахта на советскую территорию), а также в обращении Гитлера к немецкому народу утром того же дня содержались утверждения... об «агрессивности» Советского Союза, о нарушении им пакта о ненападении, о том, что русские дивизии готовились вот-вот напасть на Германию и т. п. И Германии якобы ничего не оставалось, как напасть на СССР, чтобы упредить его агрессию.

Тогда же Советское правительство в заявлении в связи с вероломным нападением фашистской Германии на СССР квалифицировало германские «обоснования» агрессии как попытку «задним числом состряпать обвинительный материал насчет несоблюдения Советским Союзом советско-германского пакта».

Да, это было именно так: фашисты хотели оправдать совершенную ими агрессию против СССР, выдвигая надуманные обвинения в его адрес. Но этот обман был разоблачен. Доказательства, представленные Нюрнбергскому трибуналу, судившему гитлеровских преступников, подтвердили, что «Германия имела тщательно разработанные планы сокрушить СССР как политическую и военную силу для того, чтобы расчистить путь экспансии Германии на Восток в соответствии с ее стремлениями...». В приговоре Нюрнбергского трибунала четко и недвусмысленно констатировалось, что выполнение Германией плана войны против СССР «началось 22 июня без каколибо предупреждения и без тени законного оправдания. Это была явная агрессия».

Таким образом, лживость гитлеровской легенды о «превентивной» войне была давно доказана перед всем миром. Однако умереть ей не дали те, кого не устраивали итоги второй мировой войны. С их точки зрения, гитлеровская версия о «превентивной» войне против СССР хороша тем, что подкрепляет «историческим опытом» раздуваемый буржуазной пропагандой миф о «советской военной угрозе». Именно этим и объясняется тот факт, что при всей очевидности агрессивной, захватнической сущности планов германского фашизма в отношении СССР не иссякает поток литературы, в которой утверждается, что Германия «вынуждена» была начать войну против СССР в связи с угрозой, которая исходила от Советского Союза для Германии и даже для всей Европы. Опубликованная в 1961 году книга ультраправого американского профессора Д. Хоггана «Вынужденная война» (заголовок, как видим, без обиняков говорит о позиции автора) в течение первой половины 60-х годов была переиздана в ФРГ семь раз. В книге западногерманского историка-неонациста Г. Хертле «Оправдание для Германии» также утверждается, что «превентивная война Германии предупреждала гигантское советское наступление». Грубая фальшивка гитлеровцев о «превентивном характере» германской агрессии против СССР получила также довольно широкое распространение в США, Великобритании и других странах.

Домыслы, к которым прибегают современные реставраторы гитлеровской фальшивки, не заслуживают научной полемики, поскольку их лживость давно доказана. Но реанимация мифа о «превентивной» войне не безобидна: достаточно вспомнить неоднократные заявления представителей администрации США и самого президента о том, что в связи с «советской военной угрозой» они вправе нанести «превентивный», «упреждающий» ядерный удар по жизненно важным центрам СССР и других социалистических стран. Премьер-министр Великобритании М. Тэтчер на одной из последних пресс-конференций заявила, что Советский Союз «был, есть и останется угрозой Западу». Поэтому Запад должен, по ее мнению, продолжать политику с позиции силы, сохранять и совершенствовать ядерные вооружения.

Между тем именно продолжение западными странами такой политики и есть реальная, а не мифическая угроза миру. Что же касается СССР и других социалистических стран, то они, как об этом говорится в документе «О военной доктрине государств—участников Варшавского Договора», в силу самой природы социалистического общественного строя «не связывали и не связывают свое будущее с военным решением международных проблем». Они исходят из того, что в нынешних условиях применение военного пути для решения любого спорного вопроса недопустимо.

Так что если делать выводы из совершенного 46 лет назад акта агрессии против СССР, то они должны связываться не с легендой о «советской военной угрозе», а с судьбой агрессора, посягнувшего на социализм.

**Павел БОБЫЛЕВ.**

**НА СНИМКЕ: май 1945 года. Знамя Победы над рейхстагом в Берлине.**



*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

# АНТИЧНАЯ АНАПА

«Море смывает страданье людей»,— писал древнегреческий поэт Еврипид. Слова эти с полным правом можно отнести к Черному морю, омывающему берега Анапы—одного из крупнейших детских курортов. Все здесь как будто специально предназначено природой, чтобы радовать и исцелять: теплое море, золотые песчаные пляжи, чистый, благодаря бризам, воздух, минеральные источники, обилие солнца, живописная равнина.

Не случайно земля эта издавна привлекала людей. Неизвестно, какие племена первыми появились здесь, но благодаря археологам известна история ее заселения с VII—VI веков до н. э...

В 60-х годах в центре города рыли котлован для строительства современного здания и неожиданно наткнулись на старинные стены и обломки греческих амфор. Стройку законсервировали. Решением крайисполкома земля вокруг этого участка была объявлена заповедной и отдана в распоряжение ученых. Экспедиция Института археологии Академии наук СССР и сотрудники местного краеведческого музея приступили к раскопкам. Сюрпризы не заставили себя ждать. В руках ученых оказались находки самого высокого класса: керамика, светильники, предметы быта, скульптура. Постепенно проступали расчищенные археологами кварталы древнего города...

В VII—VI веках до н. э. в Северном Причерноморье обитали племена синдов, а на месте современной Анапы находилось поселение Синдская гавань, о которой неоднократно упоминали древние авторы. Здесь был крупный порт, через который синды вели торговлю с городами Боспорского царства (одного из первых государств на территории нашей страны).

С появлением греческих колонистов на месте Синдской гавани возник город Синд (Синдика). В IV веке до н. э. он вошел в состав Боспорского царства, наместником в нем стал Горгипп, и город получил новое название Горгиппия.

Выгодное географическое положение на берегу удобной бухты способствовало быстрому росту города. В гавань приходили корабли из далекой Эллады. В обмен на зерно, кожи, меха, соленую рыбу они привозили вино, чернолаковую посуду, оливковое масло, благовония. В первые века нашей эры Горгиппия была одним из самых богатых боспорских городов.

На центральной площади высились прекрасные храмы, посвященные Афродите—покровительнице мореходов и Посейдону—богу морской стихии. Вдоль улиц, вымощенных каменными плитами, стояли дома землевладельцев, богатых негоциантов, винодельни, мастерские ремесленников. В городе жили искусные гончары и камнерезы, судостроители и моряки, виноделы и рыбаки.

Все, что способствовало расцвету Горгиппии—удобная бухта, плодородная равнина,—привлекало и завоевателей. В первой половине III века город подвергся вражескому нашествию, был разрушен и сожжен.

Около двух тысячелетий его руины были погребены под землей.

Сегодня ученые восстановили историю древнего города, разгадали многие его тайны.

В самом центре Анапы расчищена территория античного города в 6 000 квадратных метров. По решению Совета Министров РСФСР здесь создан археологический музей-заповедник. В выставочном зале—амфоры, монеты, прекрасные коллекции терракоты и античного стекла. Во дворе музея, под деревьями, стоят каменные надгробия, саркофаги, мраморные плиты, на которых высечены царские декреты, посвящения богам и царям, списки победителей в спортивных соревнованиях. Рядом, в неглубоком котловане, видны расчищенные кварталы торгово-промышленного района античного города. И можно пройтись по мостовой, вымощенной 25 веков назад.

Дизайнеры, художники, археологи работают над созданием новой музейной экспозиции, которая свяжет в единое целое кварталы древней Горгиппии, силуэты берега, почти не изменившиеся за пролетевшие века, море, на котором когда-то белели паруса торговых судов.

Обследована только 30-я часть территории Горгиппии. Раскопки продолжаются. Археологи убеждены, что они—на пороге новых открытий.

**Екатерина АЛЕКСЕЕВА,**
**кандидат исторических наук,**
**археолог.**

# СТРОИТЕЛЬСТВО ЖИЛЬЯ НА ТЕРРИКОНАХ

В Донецке, шахтерской столице Советского Союза, начат уникальный градостроительный эксперимент, который в случае удачи избавит город от терриконов (отвалов пустой породы, образующихся возле угольных шахт) и на многие годы решит острую для него проблему поиска свободных для застройки земель.

Идея принадлежит местному архитектору Виталию Вязовскому. Обобщив уже имеющийся опыт использования переформированных и облагороженных терриконов под зоны отдыха, он разработал технологию подготовки отвалов под жилую застройку. А их в Донецке свыше 80. Вместе с санитарной зоной они отнимают у города более 20 процентов территории. Кроме того, отвалы пустой породы серьезно осложняют экологическую обстановку в этом крупном промышленном центре СССР, знаменитом также тем, что здесь на каждого горожанина (население города свыше миллиона человек) приходится по кусту алых роз. Все дело в том, что терриконы постоянно пылят, дымят, отравляя атмосферу угарным газом.

И еще одно обстоятельство, которое побуждает местные власти заинтересованно отнестись к идее Виталия Вязовского. Это экономическая выгода. Чтобы вывезти один отвал за пределы города, расходуется до 6 миллионов рублей. Высокая себестоимость такой ликвидации сочеталась с трудным поиском подходящего места для складирования пустой породы. Проект Вязовского позволяет сократить расходы до 40—60 тысяч в расчете на один террикон.

Технологически подготовка отвала под застройку распадается на несколько этапов. Вначале террикон гасится, затем срезается и разравнивается до высоты 17—20 метров, поглащая тем самым санитарную зону, которая как правило, имеет радиус до 500 метров. Образовавшаяся площадка в дальнейшем инъектируется вяжущими растворами—глинистой, известковой и цементной пульпой—и уплотняется. Последний этап подготовки—нанесение на ее поверхность чернозема, предварительно снятого с засыпаемой санитарной зоны.

По расчетам Вязовского, переформированный и подготовленный под застройку террикон будет иметь площадь не менее 15 гектаров. В целом на отнятой у терриконов территории можно возвести дома общей площадью около 6,5 миллиона квадратных метров. Для Донецка это равно программе жилищного строительства вплоть до 2000 года.

**Николай КАШАНСКИЙ.**

## *НАРОДНЫ УНІВЕРСІТЭТ—АДНА З ФОРМ ПАВЫШЭННЯ КУЛЬТУРЫ І АДУКАЦЫІ*

# У ВЕДАЎ КАНІКУЛАЎ НЯМА

Шырокі кругагляд, інтарэсы савецкіх людзей... Яны тычацца самых розных галін: культуры, мастацтва, эканомікі, палітыкі, медыцыны... Каб задаволіць іх, мы маем шмат бібліятэк, разнастайных клубаў, аматарскіх аб'яднанняў. Сярод многіх форм павышэння культурнага і адукацыйнага ўзроўню вылучаюцца народныя універсітэты.

Народны універсітэт — установа навучальная, але своеасаблівая і спецыфічная. Пасля яе скапчэння выпускнікі не атрымліваюць дыпломаў і прафесій, хаця вучацца тут па два-тры гады. Што ж даюць людзям такія заняткі? Галоўнае — магчымасць атрымаць новыя веды, сустрэцца з сябрамі па інтарэсах, пазнаёміцца з цікавымі асобамі — вучонымі, пісьменнікамі, артыстамі...

### У БІБЛІЯТЭЦЫ ПАСЛЯ РАБОТЫ

Народны універсітэт культуры і эстэтычнага выхавання пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы адкрыўся ў 1980 годзе. На яго двух факультэтах — літаратуры і выяўленчага мастацтва — займаецца больш за 200 мінчан: рабочых, служачых, інжынераў, нямала вучняў старшых класаў школ. Сярэдні ўзрост слухачоў недзе каля трыццаці пяці год. Адукацыя — ад вышэйшай да незакончанай сярэдняй.

Для школьнікаў зараз прызначаны спецыяльны курс «Мастацтва і жыццё». На занятках юнакі і дзяўчаты больш падрабязна, чым на ўроках у школе, знаёмяцца з выяўленчым мастацтвам, удзельнічаюць у творчых дыскусіях і абмеркаваннях, сустракаюцца з папулярнымі мастакамі, наведваюць Мастацкі музей БССР, вернісажы ў Палацы мастацтва. За два гады моладзі было прачытана каля дваццаці лекцый вопытнымі, кваліфікаванымі мастацтвазнаўцамі, у госці да іх прыходзілі сакратар праўлення Саюза мастакоў Беларусі У. Стальмашонак, мастачка Н. Шчасная, графік з Маладзечна А. Пашкевіч, які паказаў свае работы, прысвечаныя Максіму Багдановічу, маладыя беларускія мастакі...

Але асабліва цікава і разнастайна працуе факультэт літаратуры, дзе сумесна з гарадской арганізацыяй Таварыства аматараў кнігі арганізаваны курс «Чалавек і кніга». Асноўная задача тут вызначаецца так: пазнаёміць з найбольш значнымі навінкамі савецкай, у тым ліку і беларускай літаратуры, даць практычныя звесткі і парады па кнігазнаўству і бібліяграфіі, культуры чытання, фарміраванню асабістых кніжных збораў.

Зараз намеснік дырэктара бібліятэкі і адначасова рэктар універсітэта Людміла Сулохіна і яе калегі ўжо думаюць пра будучую восень, яшчэ раз удакладняюцца планы заняткаў, карэкціруюцца з улікам пажаданняў, выказаных слухачамі універсітэта на заключнай канферэнцыі ў канцы навучальнага года. Ідуць перагаворы з вопытнымі лектарамі. Звычайна яны згаджаюцца ахвотна: ва універсітэта ў купалаўскай бібліятэцы — трывалы аўтарытэт. Ніколі не адмаўляюць у дапамозе універсітэту супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР. На факультэце літаратуры ўсе часта прыгадваюць вядомага даследчыка гісторыі беларускай літаратуры А. Мальдзіса і яго вельмі цікавыя лекцыі «У пошуках старажытных кніг і рукапісаў». Прайшлі сустрэчы з супрацоўнікамі часопісаў «Неман» і «Маладосць». А адно з нядаўніх заняткаў адбылося ў тэатры імя Янкі Купалы, дзе слухачы універсітэта паглядзелі новы спектакль «Апошні жураўель», пасля якога гутарылі з адным з аўтараў сцэнарыя А. Дударавым і рэжысёрам Андросікам, артыстамі тэатра.

Зараз у народным універсітэце пачаліся канікулы. Але яго слухачы па-ранейшаму частыя госці ў бібліятэцы. Канікулаў у ведаў не бывае.

### ХТО АДКАЖА НА ПЫТАННІ ЧАСУ

На магілёўскім заводзе «Тэхнапрыбор» працуюць пераважна жанчыны, у якіх звычайна галоўны клопат — сям'я, дзеці. Але ўжо пяць год на прадпрыемстве дзейнічае народны універсітэт, дзе многія з іх самыя актыўныя слухачкі. Тут за аснову ўзята правіла: весці размову пра ўсё, што хвалюе рабочага чалавека, бо профіль гэтага універсітэта — грамадска-палітычны. Кіруе ім на грамадскіх пачатках з вялікай уласнай зацікаўленасцю начальнік аднаго з аддзелаў завода Уладзімір Камінскі.

— Ці ахвотна ідуць на заняткі універсітэта рабочыя? — спытала я Камінскага.

— Магу сцвярджаць: дабравольна і ахвотна. Па-першае, мы стараемся, каб тэмы заняткаў былі заўсёды актуальныя, нават злабадзённыя, і чалавек мог гаварыць аб набалелым, высветліць усё, што хвалюе яго сёння, разабрацца ў незразумелым. І людзі на гэта адгукаюцца. Па-другое, у цэлым наш універсітэт дае слухачам шмат новай інфармацыі, пашырае круг іх інтарэсаў, выводзіць на больш высокі ўзровень разумення і тлумачэння розных жыццёвых з'яў, карацей, развівае чалавека духоўна, фарміруе ў яго актыўную грамадзянскую пазіцыю. А гэта ў сваю чаргу ўлічваецца пры рэгулярных атэстацыях работнікаў на прадпрыемстве разам з яго кваліфікацыяй, дзелавымі, арганізатарскімі якасцямі.

Так, народны універсітэт на заводзе «Тэхнапрыбор» вызначае свой профіль як грамадска-палітычны. І вывучаюць тут савецкі лад жыцця. Ахоплівае гэты курс тэмы самыя розныя: палітыка ўрада як знешняя, так і ўнутраная, пытанні далейшай дэмакратызацыі савецкага грамадства, вывучэнне заканадаўства, знаёмства з дэмаграфічнай сітуацыяй у краіне, акрамя таго, даецца ацэнка і тлумачэнне яшчэ не вырашаным праблемам у жыцці кра[illegible] рэспублікі, свайго горада. Нярэдка з[illegible]кі прымаюць форму дыскусіі, з выразна акрэсленымі пазіцыямі абодвух бакоў. На лекцыі запрашаюцца выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, спецыялісты розных профіляў, якія маюць цікавую і абавязкова дакладную інфармацыю.

Пасля гу[illegible] і Уладзімір Дзям'янавіч паказаў мне спартыўны комплекс, які знаходзіцца побач з прахадной завода і куды можа прыйсці перад ці пасля змены кожны рабочы, новы дом, куды вельмі хутка пераедуць дзесяткі сем'яў работнікаў «Тэхнапрыбора», прайшлі каля нядаўна пабудаванага інтэрната, дзе жывуць маладыя сем'і, пакуль не падыдзе іх чарга на атрыманне кватэры...

У заводскім дзіцячым садзіку нас сустрэла вельмі абаяльная і добразычлівая загадчыца Ніна Шамшурка. Яна і ўсе выхавальніцы добра знаёмы з Уладзімірам Камінскім: яны таксама на працягу некалькіх год былі слухачамі народнага універсітэта, сумесна працуюць і зараз.

У кабінеце Ніны Васільеўны на невялікім століку сярод кніг па педагогіцы ляжаў вельмі папулярны ў чытачоў штотыднёвік «Аргументы и факты». У яго звычайна невялікіх па памерах артыкулах даюцца тлумачэнні і адказы на самыя розныя пытанні чытачоў з сферы сацыяльнай, эканамічнай, грамадска-палітычнай, міжнароднай.

— Ніна Васільеўна, а якое прымяненне ў паўсядзённым жыцці знаходзяць веды, атрыманыя на занятках?

— Я буду гаварыць з пункту гледжання сваёй справы. Усе разумеюць, што выхоўваць дзяцей — гэта значыць не толькі іх накарміць, дагледзець, забавіць. Нават маленькіх, як нашы, дзетсадаўскія. Мы павінны закласці ў іх і пэўныя маральныя паняцці, даць неабходную колькасць сацыяльнай інфармацыі, безумоўна, у межах патрэбнага і зразумелага ім. А для гэтага выхавальнік і сам павінен быць чалавекам адпаведна падрыхтаваным. Напрыклад, Ірына Бужынская. Ёй толькі дваццаць чатыры гады, але яна ўжо знаёма многім педагогам Магілёва, бо мае вельмі цікавы ўласны вопыт па мастацкаму выхаванню дзяцей, развіццю ў іх добрага эстэтычнага густу.

Высокая культура, адукаванасць, грамадска-палітычная актыўнасць і мужчын, і жанчын, і моладзі — справа надзённая, асабліва сёння, калі ў нашай краіне пачата перабудова ўсіх сфер жыцця. Дапамагчы ў яе вырашэнні — галоўная задача народных універсітэтаў.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## *КАР'ЕРА МІКАЛАЯ ЯРОМЕНКІ*

# КОЖНЫ РАЗ УСЁ СПАЧАТКУ

Тыя, хто бачыў Мікалая Яроменку ў фільме «Піраты XX стагоддзя» (карціна паказвалася ў дзесятках краін), будуць напэўна нямала здзіўлены, даведаўшыся, што гэты 38-гадовы маскоўскі акцёр, які сыграў тут спрытнага і бясстрашнага старшага механіка, супермена ў стылі Бельмандо, у сябе на радзіме набыў папулярнасць і такімі глыбокімі, інтэлектуальнымі ролямі, як, скажам, Жульен Сарэль у экранізацыі «Чырвонага і чорнага» Стэндаля ці выдатны піяніст Аляксандр Гальдэнвейзер у фільме «Леў Талстой».

Дарэчы, абедзве гэтыя карціны паставіў Сяргей Герасімаў—рэжысёр, які стаў для Яроменкі больш чым педагогам (Мікалай быў яго студэнтам у маскоўскім кінаінстытуце)—Настаўнікам. Герасімаў (які адкрыў у свой час для кінематографа і бацьку Мікалая—Яроменку-старэйшага—вядомага тэатральнага акцёра з Мінска) змог убачыць у сваім студэнце не проста прыгожага маладога чалавека, які мог бы бесклапотна штампаваць ролі «герояў-любоўнікаў»,—ён убачыў у ім цікавую асобу. На другім курсе Яроменка зняўся ў карціне Герасімава «Ля возера». І хоць роля была невялікая, а побач дзейнічалі такія магутн[illegible] акцёрскія індывідуальнасці, я[illegible]укшын і Жакаў, работа юнага Яроменкі запомнілася. Сыграў ён тут у многім самога сябе—закаханага хлопца з гарэзлівымі вачамі. І ў фільме Барыса Яшына «Лівень» можна было пазнаць Яроменку з калідораў кінаінстытута—кры[illegible]хуліганістага, які ў перапынках [illegible] між лекцыямі спяваў задзірыстыя частушкі...

Ролей было многа, іграў іх Яроменка лёгка і весела, яго пазнавалі на вуліцах, дзяўчаты пісалі яму захопленыя пісьмы, аднак першая сапраўдная творчая вяршыня была дасягнута праз сем год пасля дэбюта. Размова ідзе пра Жульена Сарэля ў тэлевізійнай версіі рамана Стэндаля.

Пачынаючы гэтую работу, Яроменка не мог не думаць пра тое, што гледачы, вядома, помняць Сарэля, сыгранага выдатным майстрам Жэрарам Філіпам у фільме Клода Атан-Лара. Зрэшты, 27-гадовы маскоўскі акцёр і не спрабаваў нікога перасягнуць. Ён сыграў іншага Жульена—у нечым, магчыма, больш зямнога, больш сучаснага, і зацвердзіў за сабой права ўласнага прачытання класікі. «Мне было цікава ісці за «літарай» рамана,—скажа потым Мікалай.—Успомніце, у Стэндаля Жульен выпісаны ўвесь, да самых дробных адценняў пачуццяў. Ён сам сябе сканструяваў—замкнёнага ў кальчугу недаступнасці эгацэнтрыка, для якога няма нічога больш страшнага, чым дазволіць каму б там ні было зазірнуць у душу. І толькі перад смерцю, калі рушыцца створаная ім жа канструкцыя, Сарэль нарэшце агаляе ўласнае «я», так глыбока схаванае, што ён іншы раз і сам забываў пра яго існаванне».

Адразу пасля поспеху, як надакучлівая ідэя, узнікла пагроза самапаўтору. Катэгарычна адмаўляючыся ад ролей, якія хоць у нечым нагадвалі Жульена, Яроменка вырашыў паспрабаваць сябе ў новай якасці: сыграў рэцыдывіста па мянушцы Цыган у дэтэктыве «Карчма на Пятніцкай», рамантычнага князя Балхоўскага, які ўмее элегантна біцца на дуэлі, у фільме «Эскадрон гусар лятучых»... І нямала іншых падобных ролей. У гэтай чарадзе вылучаецца, безумоўна, старшы механік з «Піратаў XX стагоддзя», дзе Яроменка прадэманстраваў прыгажосць фізічна натрэніраванага цела: ён рабіў рызыкоўныя трукі ў моры і на сушы (і заўсёды без дублёраў), даказаўшы ўсім (і сабе, па-першае), што «і такое можа». І хоць пасля гэтага баевіка чытачы папулярнага часопіса «Советский экран» назвалі Яроменку лепшым акцёрам года, ён цвёрда вырашыў больш не здымацца, па яго выказванню, у «мускульных фільмах».

І зноў выпрабаванне. На гэты раз рускай гісторыяй. У дылогіі Сяргея Герасімава «Юнацтва Пятра» і «У пачатку слаўных спраў» Яроменка іграе хітрага і спрытнага царадворца Аляксандра Меншыкава—блізкага сябра і паплечніка Пятра І. І зноў—своеасаблівае творчае спаборніцтва: у фільме «Пётр І», пастаўленым Уладзімірам Пятровым у канцы 30-х гадоў, Меншыкава іграў выдатны акцёр Міхаіл Жараў. Але і тут Яроменку ўдаецца даказаць права ўласнага прачытання. У адрозненне ад Жарава, які іграў цалкам сфарміраванага чалавека, які спасціг мудрасць законаў двара, Меншыкаў Яроменкі толькі пачынае спасцігаць гэтыя законы. Надзіва цікава сачыць, як крок за крокам Меншыкаў-Яроменка станавіўся ўсё больш мудрым і небяспечным, як гэты выканаўца Пятровай волі, з хітраватымі мужыцкімі вачамі, вырастаў у значную і грозную фігуру.

Пасля ролі такога маштабу і псіхалагічнага напружання Яроменка, сцвярджаючы, што «трэба быць розным», са шчырым задавальненнем іграе ва ўмоўна-прыгодніцкай стужцы «Медны анёл», паказваючы заўзятага злодзея Вальдэса, які, аднак, і ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне.

Цяпер прынята падкрэсліваць, што сучасны акцёр абавязкова, маўляў, сам рэжысіруе сваю ролю, спрачаецца з пастаноўшчыкам, адсюль, напэўна, імкненне многіх таленавітых акцёраў пайсці ў рэжысуру. Мікалаю Яроменку такое імкненне не ўласціва. Ён выдатны выканаўца, здольны раствaрыцца ў рэжысёрскай задуме, данесці да гледача іменна рэжысёрскую канцэпцыю героя. Гэта зусім не значыць, што Яроменка пазбаўлены самастойнасці ў рабоце над роллю, не, «несці адказнасць за сваю работу і за свой творчы лёс, быць у поўнай меры аўтарам сваіх ролей»—яго прынцып. І ў гэтым сэнсе Яроменка—заўсёды паўнапраўны сааўтар рэжысёра. Але—як акцёр са сваім бачаннем свету, вобраза, са сваімі акцёрскімі здольнасцямі ўвасаблення гэтага вобраза на экране.

Работа Яроменкі ў тэлеверсіі славутага рамана Жуля Верна «Дзеці капітана Гранта», па-мойму, здзівіла і азадачыла сваёй абсалютнай непадобнасцю да ўсяго таго, што раней рабіў на экране. Упершыню ў жыцці артыст іграў ідэальнага станоўчага героя—храбрага, дужага, добрага, адданага Гленарвана.

— Я дастаткова добра сябе ведаю,—гаворыць акцёр,—і мне было зразумела адразу, што такім дабрадзейным я не быў нават пры нараджэнні. Больш таго, я з цяжкасцю магу знайсці прыклад сярод знаёмых. Сыграць поўную дабрадзейнасць у наш рацыянальны, скептычны век, ды так, каб не было ні смешна, ні сумна,—гэта, скажу вам, задача не з лёгкіх. Я вельмі ўдзячны рэжысёру Станіславу Гаварухіну: ён своечасова ўбачыў у маім акцёрскім багажы тое, што я сам нават не заўважаў. Своечасова таму, што надышла пара, калі можна было «спачываць на лаўрах», а акцёру абавязкова патрэбны перыядычныя ўзрушэнні, каб збіваць напрацаванае, спрабаваць усё спачатку. Я дрэнна разумею, што азначае для акцёра «знайсці сябе», але цвёрда ведаю, што гэта працэс бясконцы. Бясконца фарміраванне акцёра, і лепш, на мой погляд, памерці, яшчэ фарміруючыся, чым цвёрда ведаць, што сфарміраваўся.

**Вера ЖАЛТОВА.**

# крынічка

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

## ДРУЖБАКІ

**Сябравалі**
**Змалку ўтрох:**
**Дзіма,**
**Яша**
**І Цімох.**
**Праўда**
**У прымаўцы гучыць:**
**Іх вадою**
**Не разліць!**

**Пройдзе лета.**
**Прыйдзе час —**
**Пойдуць дзеці**
**У першы клас.**

**Толькі**
**Як рашыць задачу!**
**Кожны хлопчык**
**Ледзь не плача.**
**Ходзяць**
**Чуткі ўжо наўкруг:**
**Там усе**
**Сядзяць па двух.**

**Калі сядуць**
**Дзіма, Яша —**
**Што Цімох**
**Пра гэта скажа!**
**Калі —**
**Дзіма і Цімох —**
**Яша б сам**
**Сядзець не змог.**

**А з Цімохам**
**Сядзе Яша —**
**Дзіма**
**Што пра гэта**
**Скажа!**

**Словам,**
**Як ты ні круці,**
**Цяжка выхад**
**Ім знайсці.**

**Не сумуйце,**
**Дружбакі!**
**Верце,**
**Гэты час настане,**
**Калі першы клас**
**Такім,**
**Як вы самі,**
**Дружным стане!**

Васіль ХОМЧАНКА

## НАШ СУП

Каця і я надумалі зварыць суп на абед і пачаставаць бацьку і маці. Каця была за старшага повара, а я [illegible] памагаў.

— Навучу цябе кухарыць,—сказала сястра,—спатрэбіцца.

Мы наскрэблі бульбы, нарэзалі морквы, цыбулі, усё гэта паклалі ў каструлю, залілі вадой, на газ паставілі.

— Цяпер запамінай, што я далей буду рабіць,—сказала Каця.

Я глядзеў, запамінаў, паўтараў. Каця паклала [illegible]аструлю два лаўровыя лісцікі, і я паўтарыў тое ж [illegible]мае, толькі паклаў удвая болей, смачней будзе. Каця кінула некалькі бубачак чорнага перцу, і я, калі яна адлучылася з кухні, гэта паўтарыў.

Перад тым, як зняць суп з агню, Каця ўсыпала лыжку солі, паспытала на смак, сказала, што суп амаль гатоў. І пачала расстаўляць талеркі для абеду.

Я таксама паспытаў на смак суп. Здалося, што ён недасолены, і я ўсыпаў у яго яшчэ солі.

Прыйшлі бацька з маці. Каця разліла суп у талеркі і запрасіла ўсіх абедаць.

Уселіся за стол. Бацька сербануў нашага супу, зморшчыўся і апусціў лыжку ў талерку. Маці таксама зморшчылася.

— Хто ў вас галоўны повар?—спытаў бацька.
— Я,—адказала Каця.
— А я ёй памагаў,—сказаў я.
— Як памагаў?
— Рабіў тое, што і Каця. Яна кінула лаўровы ліст і перац, і я кінуў. Яна пасаліла, і я пасаліў.
— Ну тады ўсё зразумела,—сказаў бацька.

І я сербануў супу. І мне захацелася зморшчыцца і выліць назад у талерку, бо рот апякло перцам, і суп быў перасолены. Але праглынуў. Сам жа гатаваў, значыць, трэба есці.

Я еў, і Каця ела, і абое не моршчыліся.

Бацьку і маці, відаць, усё ж сорамна стала, што мы ядзім, а яны грэбуюць нашым супам. Пачалі і яны есці. Так і з'елі ўвесь суп.

Вера ВЯРБА

## СУНІЧКА

**Сунічка пашыла спаднічку**
**Пад колер чырвонай зары.**
**Нібыта маленькая знічка**
**Гарыць на паляне ў бары.**

**Прыбегла хітруха-лісічка,**
**І вожык прытупаў стары.**
**Дзівіліся ўсе на сунічку:**
**І кветкі, і нават звяры.**

**Дзяўчынка паставіла кошык,**
**З сунічкі не зводзіць вачэй.**
**Дзяўчынка падумала трошкі:**
**— Хай спее на сонцы яшчэ!**

**А дзве белабокі-сястрычкі**
**Здалёку трашчаць, з**
**гушчара:**
**— Сунічка надзела**
**спаднічку!**
**Чырвонага лета пара!**

Ніл ГІЛЕВІЧ

## ЗЁЛКІ

**Заўтра я павінна ўстаць**
**Раненька, з зарою:**
**Пойдзем зёлкі**
**мы збіраць —**
**Людзям на здароўе.**

**Святаяннік, дзівасіл,**
**Сухацвет і піжму —**
**Каб было на лекі ўсім —**
**Буду рваць я ўвішна.**

**Палячыцца каб маглі**
**Сталыя і дзеці**
**Сокам роднае зямлі,**
**Што сабраны ў цвеце.**

**Каб адчулі ўсе душой,**
**Колькі сілы-моцы**
**У лясной і лугавой**
**Беларускай зёлцы!**

Сяргей ТАРАСАЎ

# МУЗЫЧНАЯ НОТА

### КАЗКА

Жыў на свеце трубач. Аднойчы прыйшоў дадому, паставіў сваю трубу на акно. Акно было расчынена, а на вуліцы гуляў лёгкі ветрык. Убачыў ветрык на акне трубу, зацікавіўся: «Што гэта такое? У коміны хат і вялікіх заводаў я дзьмуў, а вось у такую трубу—не». Разбегся ветрык, сабраў усю сваю моц і дзьмухнуў. З трубы выскачыла Нота і паляцела ў свет.

Ляцела, ляцела і прыляцела да дома, дзе жыў чалавек, які піша музыку,—кампазітар. Заляцела Нота ў фортку. Бачыць: стаіць на раялі разлінееньі сшытак, а ў ім—поўна нот. І наша Нота села паміж імі.

— До-фа-мі-рэ-соль-сі-до! Ля! Што такое?—здзівіўся кампазітар.—Адкуль узялася гэта нота? Паспрабуем яшчэ раз: Соль-сі-до! Ля! Не, яна не павінна тут быць! Вось жа стаіць нота «рэ». До-фа-мі-рэ. Соль-сі-до-рэ! Зараз мы гэта «ля» выкраслім.

Спалохалася Нота і хуценька выскачыла ў акно.

— Ух ты!—уздыхнула з палёгкай.—Гэтак і сапраўды могуць выкрасліць.

Ляціць Нота далей. Раптам чуе—музыка гучыць. Агледзелася, а гэта—тэатр. Заляцела Нота ў тэатр. А там на сцэне аркестр. А нотаў над ім—што машкары. Раптам наперад выйшаў спявак з доўгай барадою і пачаў спяваць басам.

«Вось каму я, відаць, патрэбна»,—падумала Нота.

А спявак браў голасам усё вышэй і вышэй:—А-а-а! А-а-а!—І раптам нізкае:—У-у-у!

Ад нечаканасці ён змоўк. Збянтэжыўся і аркестр. Спявак здзіўлена азірнуўся, не разумеючы, як гэта ў яго атрымалася.

Спалохалася Нота: і тут яна не на сваім месцы. І, каб ніхто не заўважыў,—шусь у акно!

Ляцела і думала, што трэба, відаць, вяртацца дадому, да свайго музыкі. Але раптам апынулася каля школьнага акна. Зазірнула туды. А там каля чорнай разлінеенай дошкі стаіць дзяўчынка і плача, а дошка спісана нотамі.

— У цябе ўсё добра, Аленка,—кажа настаўніца,—толькі ў другім такце не хапае адной ноткі. Падумай, не хвалюйся...

Пачула гэта Нота, прыгледзелася да дошкі. І сапраўды, у адным месцы зверху ёсць нота і знізу ёсць, а пасярэдзіне—пуста. Нядоўга думаючы, скокнула яна на гэта месца і сцішылася.

— Не плач, Аленка,—кажа настаўніца.—Паглядзі на дошку ўважліва... Але што гэта?—здзівілася яна і надзела акуляры.

— Яе ж, здаецца, не было. Цяпер тут сапраўды ўсё правільна. Стаўлю табе «выдатна».

Яна раскрыла Аленчын дзённік і паставіла пяцёрку.

А дзяўчынка ўзяла крэйду і падмалявала Ноту.

«Вось дзе я патрэбна!»—падумала Нота і засталася ў школе.



Пераправа. Фота І. ВАКУЛІЧА.

## ЛІЧЫЛКІ

Раз!— лічу.
Два!— лічу.
Раз чытаю,
Два чытаю
Чытаю і яшчэ хачу —
На памяць кніжку завучу...

***

Восем Маш
І восем Мішак
Прынеслі па восем кніжак.
Сталі дружна іх лічыць:
— Раз! Два! Тры!
Чатыры! Пяць!..
— Твая якая?
— Тая, што з краю.
— На!..

***

Кар! Кар! Кар!
Ішла варона на базар.
А потым — з базара:
Кніжкі раздавала.
Гэтую — дзеду!
Гэтую — суседу!
Гэтую — табе!

***

Ішоў пекар па панелі,
Нёс бублік у партфелі,
Партфель парваўся,
Бублік згубіўся.
Хто бублік знойдзе,
Той і кніжку прачытае!
Вось!..

***

Праз сад-гарод
Бег рыжы кот.
Даганяў мышку,
А знайшоў кніжку.

## ХВІЛІНКІ-ВЕСЯЛІНКІ

**Хвалько кажа хвальку:**
**— Чуў пра Атлантычны акіян!**
**— Чуў.**
**— Я пераплыў яго.**
**— А ты чуў пра Мёртвае мора!**
**— Чуў.**
**— Я яго забіў.**

***

**Трохгадовая Ірынка мяшае лыжкай суп, глядзіць, як віецца пара над талеркай.**
**Бабуля пытаецца:**
**— Унучка, чаму ж ты не ясі!**
**Ірынка адказвае:**
**— З супу пыл ідзе.**

***

**Маці ўшчувае сына-гультая.**
**Сын апраўдваецца:**
**— Мамачка, чаго ты крычыш! Я ж нічагусенькі не рабіў!**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 992